# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1967
Верасень-
Кастрычнік

Год XV
№ 5 (104)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XV** **September-October 1967** **№ 5 (104)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XV — ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК — № 5 (104)


# Доктар Францішак Скарына

## да 450-годзьдзя яго Біблії (1517-1967)

Зусім слушна сьвяткуецца ўрачыста на радзіме Скарыны юбілей 450-ці гадоў ад першай надрукаванай ім кніжкі.

Даведваемся, што нарэшце мае быць пастаўлены яму ў родным Полацку помнік;

што некаторыя навуковыя ўстановы і вуліцы гарадоў названы ягоным імем;



*Францішак Скарына*
*малюнак А. Геруса; (Літ. і Маст., 15. VIII. 67)*

што ладзіліся ў чэсьць нашага вучонага даклады і выстаўкі вельмі рэдкіх сяньня ягоных кнігаў.

Зьявілася таксама пэўная кольскасьць паважных артыкулаў у розных савецкіх часапісах: некаторыя зь іх непазбаўлены сьвежасьці і пэўнай навуковай цікавасьці. Хтосьці нават дамагаўся перавыданьня скарынаўскіх кніг, што бяз сумніву было-б найбольш вартасным з усіх юбілейных здарэньняў.

Заўважым, што пытаньне аб імяні Скарыны нядаўна спэцыяльна разглядалася на паседжаньні бюро грамадзкіх навук Акадэміі БССР. Хаця і прызналі, што ніколі Скарына ня ўжываў іншага імяні апрача Францішак, усё-ж савецкія акадэмікі пастанавілі, што «ў далейшым пры найменьні беларускага першадрукара пісаць Францыск (Георгій) Скарына. Пры скарочаным-жа напісаньні мэтазгодна аддаваць перавагу варыянту Францыск Скарына, бо такі варыянт найбольш адпавядае аўтарскай волі Скарыны, выражанай ва ўсіх яго друкаваных выданьнях». (Зьвязда з 11. V. 1867).

Значыць, чужацкае па форме «Георгій» яшчэ на сьмех сапраўднай навуцы асталося, хоць і ў дужках.

У скарынаўскіх сьвяткаваньнях кладзецца націск на першую друкаваную кнігу і на асьветніцкую — гуманістычную дзейнасьць першадрукара. Усё гэта слушна, але аднабакова. Нам няма чаго стыдацца назваць тую першую кнігу па імяні: была гэта кніга сьвятая для ўсіх хрысьціянаў — адна з кнігаў натхнёных Богам — Псалтыр, аб якім сам яго выдавец вялікі Скарына сьпяваў так прыгожа і з любоўю гімн-пахвалу ў яго чэсьць. Вось тая пахвала Скарыны для Псалтыра:

> «Псалтырь же, — ... суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгых скарбов, всякия немощи, духовныи и телесныи уздаровляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмирають, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняють, чювствия в молитвах дають, людей и приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають.
>
> «... И что есть, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там вѣличества Божия и хвалы Его?

«Там ест справедлівость. Там ест чистота душевная и телесная. Там ест науки всякое правды. Там мудрость и разум досконалый. Там ест милость и другголюбство без льсти, и все иншии добрые нравы якобы со источника оттолѣ походять. Там ест великая тайна о Бозе в Тройци едином, и со воплощении Господа



*Скарына ў друкарні*
*(Літ. і Маст. 15. VIII. 1967 г.)*
*З гравюры мастака А. Салькова.*

Нашего Исуса Христа, и о вмучении Его невинном, и о воскресении из мертвых. Там ест надежда востания из мертвых и вечного живота, боязнь страшного суду и вечного огня. Там ест многых скритных таин з'явление. Вси тыи речи якобы у великом сокровиши в сей малой Псалтыри знайдешь.

«И видечи таковые пожитки в так малой книзе, я, Францишек, Скорынин сын з Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути . . . »

(Прадмова да кнігі Псалтыр, Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, Мінск 1959, б. 173—174).

У гэтых словах Скарыны передавалася хрысьціянская традыцыя, асабліва пашана і любоў Айцоў Царквы да Кнігі Псальмаў. У падобных словах ужо Сьв. Васіль Вялікі (памёр у 379 г.) славіў Псалтыр. Ён між іншым піcaў:

«Кніга Псальмаў абыймае ўсё тое карыснае, што знаходзіцца ў іншых кнігах: прадказвае будучае, выклікае прошлае, дае закон для жыцьця, падказвае паводзіны — ёсьць скарбніцаю добрага навучаньня і ў ёй знайдуцца лекі карысныя для кожнага. І сапраўды яна лечыць даўнія раны і хутка гоіць нядаўні боль . . .

«Чаго толькі ня можна навучыцца з псальмаў? Ці не пазнаеш адгэтуль веліч мужства, суровасьць справядлівасьці, чэснасьць чыстасьці, дасканаласьць растаропнасьці, прыклад пакуты, меру магчымасьці цярпеньня і ўсялякае дабро, якое толькі можаш назваць?

«Тут маеш сапраўднае багаслоўе, прадказаньне прыходу Хрыста ў целе, пагроза судом, надзея ўваскрэсеньня, страх перад карай, абяцаньне славы, аб'яўленьне тайнаў. Усё быццам у вялікай і агульнай скарбніцы сукрыта ў Кнізе Псальмаў . . .»

Як бачым, з прыведзеных тэкстаў Скарыны і сьв. Васіля Вялікага, як блізкімі яны ёсьць па духу, а нават і па свайму зьместу. Гэта сьветчыць, што гуманіст Скарына быў вельмі добра азнаёмлены з творамі Айцоў Царквы і ён іх ня толькі знаў і прысвоіў, але жадаў перадаць таксама сваім нашчадкам:

> « . . . к пожитку посполитого доброго наболей с тое прычыны, иже мя милостивый Бог с того языка на сьвет пустил».

*

Калі ёсьць гутарка аб Скарыне, як аб чалавеку глыбока рэлігійным, дык варта затрымацца над тым, што аб ім кажа Мікола Алексютовіч у кніжцы «Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд», выданай у Менску ў 1958 г. Гэты самы аўтар у скароце паўтарыў свае погляды ў «Полымя» за ліпень 1967 у артыкуле: «Імя яго гучыць у стагодзьдзях». (Насуперак самому сабе Алексютовіч імя Францішак ня прызнае, а бароніць Георгій).

Паводля Алексютовіча, Біблія Скарыны не адпавядала духу артадаксальнага хрысьціянства, больш таго: была накіравана «супраць засілля і рэакцыйнай ролі духавенства».

Таксама ён не знаходзіць у Скарыны «ні патрабаваньняў аскетычных подзьвігаў, ні апраўданьня царкоўнай ерархіі, ні асаблівай блізкасьці да Бога».

Доказам вальнадумства Скарыны — паводле таго-ж Алексютовіча — ёсьць і той факт, што беларускі вучоны выдаў Біблію на народнай мове тады, калі «каталіцкая царква

расцэньвала ў той час пераклад Бібліі на народную мову як парушэньне вернасьці яе аўтарытэту, як замах на сваю ўладу... Такога погляду прытрымлівалася і праваслаўная царква... Ідэя выкарыстаньня нацыянальных моў і тым больш ідэя перакладу на народную мову бібліі ў эпоху Скарыны была прызнана царквой ерэтычнай...»

Каб абавязкова зрабіць са Скарыны ворага Царквы, ледзь ня гэрэтыка, савецкі аўтар на доказ прыводзіць розьніцы паміж біблійнымі тэкстамі Вульгаты і скарынаўскім тлумачэньнем, а таксама і той факт, што Скарына залічыў да кананічных кніг Бібліі кнігі: Ісус Сірахаў, Песьня песьняў, Прамудрасьць і Судзьдзяў. А гэтыя-ж кнігі паводле Трыдэнцкага Сабору некананічныя!

Можна было-б знайсьці яшчэ больш цьверджаньняў у кніжцы і ў артыкуле ў «Полымя», якія згрунту ёсьць фальшывыя.

Аляксютовіч імкнецца разглядаць погляды Скарыны з пункту гледжаньня марксісты, бязбожніка. Для яго Царква ці наагул рэлігія — гэта ворагі навукі. Той, хто супрацíўляўся Царкве, чалавек паступовы, а сапраўдны гуманіст мусіў быць недаверкам!

Начапіўшы на вочы такія марксыстоўскія акуляры, цяжка тады прыблізіцца і зразумець чалавека, які быў адначасова і вучоны і глыбока веручы.

А ці-ж толькі такі адзін Скарына быў у часах адраджэньня?! Рафаэль, Міхал Анёл, Леонардо да Вінчы, Эразм Роттэрдамскі, Капэрнік... Ды хто іх усіх пералічыць!

Паводля Аляксютовіча «...тое нямногае, што стала здабыткам гісторыі, дае падставу сьцьвярджаць, што Скарына быў вялікім сынам славянскіх народаў, (чаму ня быць скрамнейшым і мацнейшым, каб сказаць — беларускага народу?), найадукаванейшым чалавекам свайго часу, патрыётам і гуманістам, нястомным распаўсюджвальнікам асьветы і культуры сярод шырокіх мас насельніцтва». (Полымя, 1. с., бач. 174).

Зрабіўшы невялікую папраўку, пад гэтым сказам усе мы з ахвотай падпішымся. Але і надалей асьмельваемся цьвердзіць, што гэткая характарыстыка вялікага Скарыны ёсьць няпоўная.

Скарына быў глыбока рэлігійным чалавекам, багасловам, біблістам, духоўным настаўнікам хрысьціянства, асабліва настаўнікам для простых людзей.

Ужо сам факт, што ён узяўся за тлумачэньне, выясьненьне і выданьне друкам Бібліі, гаворыць сам за сябе.

Для Скарыны Біблія — гэта нятолькі школьны дапаможнік для прасьветы сваіх простых, часта пакрыўджаных братоў, але гэта кнігі Божыя, хаця і людзкой рукой напісаныя, а таму (ён кажа):

> «всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючы можеть поразумети, что есть потребно к душному спасению его». (Прадмова да ўсей Бібліі).

Скарына добра ведае, што ня ўсе месцы Сьвятога Пісьма аднолькава для ўсіх зразумелыя. Таму ён параўноўвае Біблію да ракі, у якой бываюць плыткія месцы, што праз іх пяройдзе і баран, але сустракаюцца і такія, што слонь павінен пераплываць.

А ў кнігах Бібліі ўсялякай мудрасьці — альфа і амэга, пачатак і канец. Праз яе пазнаецца Ўсёваладарны Бог, Пантакратар. У Бібліі — законы для людзей, як маюць жыць, у ёй — лекі для душы і цела, у ёй — навука, як любіць Бога дзеля Яго Самога, а бліжняга дзеля Бога.

Дык гуманіст Скарына ня сумневаецца нікольні, што студыюючы Біблію можаш адукоўвацца таксама ў сямі вызваленых навуках, якіх праграма была абавязкавай у тагачасных унівэрсытэтах.

Мы згодзімся, што ў наш атамны век пагляды Скарыны зьяўляюцца шмат у чым застарэлымі, але тым ня менш яны сьветчаць аб пераканаяньнях Скарыны і яго рэлігійнасьці.

У кожнай кнізе Бібліі Скарына імкнуўся сьцяміць тую праўду, якую Бог — першы і галоўны аўтар кнігі — праз другараднага аўтара-чалавека, захацеў аб'явіць.

Пры сутыку з кнігай Гіоба Скарына парушае адвечную праблему зла на сьвеце, — праблему якая хвалявала гэтулькі геніяў перад Скарынай (Арыстотэль, Плятон, Плётын, Орыген, Аўгустын, Тамаш Аквінскі) і пасьля яго (Паскаль, Кант, Гэгель, Маркс, Ленін).

Сьв. Аўгустын кранаючы праблему зла пісаў: «Усёмагутны Бог не дазволіў-бы ў сваіх творах на ніякае зло, каб Ён ня быў так магутны і добры, што са зла можа зрабіць добрае». (P. L., 40, 236). А ў парадку фізычным ужо Арыстотэль заўважыў, што зьнішчэньне аднаго ёсьць народзінамі для другога.

Адказ Скарыны адносна праблемы зла ёсьць хрысьціянскі і адзіна праўдзівы.

У прадмове да кнігі шматпакутнага Гіоба ён навучаў:

> «Яко бо злато искушается огнем, тако и святии Божии терпением. Сам наш Спаситель глаголеть: 'Блажэні плачющеися яко тии утешатся'». Як Гіобу даў Бог усяго ўдвайне больш пасьля страшэнных яго цярпеньняў, так будзе і з іншымі людзьмі, што ўмеюць цярпець:
>
> «Яко не до конца прогневается Господь и кого караеть, того милуеть».

Скарына трапна паясьняе зьмест кнігі Гіоба словамі Хрыста: «Блажэні плачющеися яко тии утешатся».

Падобныя паясьненьні Старога Запавету словамі Хрыста або Апостала Паўла зьяўляюцца для скарынінскіх прадмоваў вельмі характэрнымі. Гэтым ён паказвае, што паміж рознымі кнігамі Старога і Новага Запавету няма ў сутнасьці розніцы, паводле таго, што коратка выказвалі багасловы:

„Quid in Vetere Testamento latet, in Novo patet“.

Гэта значыць, што у Ст. Запавеце было скрытае, ня зусім яснае (прыкладам прароцтвы аб Хрысьце), тое у Новым адкрылася і выясьнілася.

Як важным у паняцьці Скарыны было, каб выясьніць згоднасьць між Старым і Новым Запаветам, відаць і з таго, што ў «Псалтыры» (1517 г.) ён «на боцех» (на палях) падаваў ня толькі беларускія словы, каб паясьніць малазразумелыя стараславянскія, але таксама адпаведныя месцы ўсяго Сьв. Пісьма. Такім чынам атрымоўвалася тое, што сяньня ведама пад назвай: „Concordantia Sacrae Scripturae“, што па беларуску можна было-б ператалумачыць: «Гармонія тэкстаў Сьв. Пісьма».

Першым, хто ў сваім выданьні Бібліі меў гармонію тэкстаў, быў Фробэн, які ў 1490 г. ў Базылеі выдаў Біблію.

Скарынаўскія ўзгадненьні ў Псалтыру мелі выразную мэту, аб чым сам ён кажа: «иже вси иные светые писма згоджаються с Псалтырею и одно на другое светчыть».

## БІБЛІЯ СКАРЫНЫ А ПАСТАНОВА ТРЫДЭНЦКАГА САБОРУ

Дзеля таго, што нашаму перакладчыку і выдаўцу першай беларускай Бібліі зрабілі паважны закід, што быццам ён далучыў да сваей Бібліі тыя кнігі, якія ня былі прызнаныя Царквой як кананічныя, таму варта шырэй спыніцца над сьпісам скарынаўскіх кніг. Найлепш усё выясьніцца, калі мы параўнаем спіс кнігаў усей Бібліі, зроблены нашым вучоным, з канонам прынятым на Саборы ў Трыдэнце. Заўважым толькі немалаважную акалічнасьць, што Скарына друкаваў свае кнігі ў гадох 1517—1519 у Празе і пазьней у Вільні ў 1525 г., а Трыдэнцкі Сабор адбываўся ў гадох 1546—1563. Сьпіс сьвятых кнігаў або кананічных быў устаноўлены на чацьвёртай сэсіі Сабору 8 красавіка 1546 г., калі Скарына ўжо ня жыў.

Іншая важная акалічнасьць у справе ліку біблійных кнігаў ёсьць тая, што Трыдэнцкі Сабор зусім ня быў першым, які разглядаў і пастанаўляў аб сьвятых кнігах. Гэтым займаліся вучоныя Айцы Царквы, найвыдатнейшы зь іх сьв. Геранім, на якога спасылаецца ў сваіх прадмовах час-ад-часу і Скарына, дый лякальныя саборы — Ляодыцэйскі (каля 360 г.) і Картагінскі (405), і Папа Гелязі (492—496) і экумэнічны сабор у Флёрэнцыі ў буллі „Cantate Domino“ з 1441 г.

Трыдэнцкі Сабор толькі аўтарытэтна пацьвердзіў тое, што жыдоўская і хрысьціянская традыцыя вякамі ўжо прызнавала адносна кнігаў Бібліі.

Скарына называе ўсе кнігі Сьв. Пісьма Новага і Старога Запавету ў сваей знамянітай Прадмове да ўсей Бібліі. Там ён падае апрача назваў кніг коратка іх зьмест, асабліва зьвяртаючы ўвагу на тое, што таілася у Ст. Запавеце, а пасьля выявілася ў Новым.

Нажаль, ня ўсе кнігі Бібліі Скарына выдрукаваў!

*

### КНІГІ БІБЛІІ ПАВОДЛЕ СКАРЫНЫ 1519 Г.

**Пентатеухон или Пятери книги Моисеевы:**

1. Бытья 2. Исход 3. Леувит 4. Числа 5. Вторий Закон: 6. Книги Иова 7. Исус Навин 8. **Книги судей** 9. Книжка Руф 10. Книги четырех царств 11-12. Двое книги Паралипоменона 13-14. Двое книги Ездры **15.** Книжка Товиф **16.** Книжка Юдифа вдовици **17.** Книжка Есфира царице 18. Песни царя, Давыдовы книги **19.** Трое кижки Саломоновы: Притчи, Еклезиаст, **Пѣсни песнем 20. Книги Исуса, сына Сирахова, Церковник 21. Книга Премудрости Божия.** 22. Книги шестьнадесяти Пророков Господних: 1) Исайя

### КАНОН БІБЛІЙНЫХ КНІГАЎ ПАВОДЛЕ ТРЫДЭНЦКАГА САБОРУ 1546 Г.

**Libri Veteris Testamenti:**

Quinque Moysis, id est 1. Genesis; 2. Exodus; 3. Leviticus; 4. Numeri; 5. Deuteronominum; 6. Iosuae; 7. **Judicum;** 8. Ruth; 9. quatuor Regum; 10. duo Paralipomenon; 11. Esdrae primus et secundus, qui dicitur Nehemias; **12.** Tobias; **13.** Iudith; **14.** Esther; 15. Job; 16. Psalterium Davidicum centum quinqaginta psalmorum; 17. Parabolae; 18. Ecclesiastes; **19. Canticum Canticorum; 20. Sapientia; 21. Ecclesiasticus;** 22. Isaias; 23. Ieremias cum Baruch; 24. Ezechiel; **25.** Daniel.

2) Еремия теже написал Плачь Еремии 3) Езакииль 4) Даниил; Пророци менчшие: 1) Осия 2) Иоиль 3) Амос 4) Авдей 5) Иона 6) Михей 7) Наум 8) Аввакум 9) Софония 10 Агей 11) Захария 12) Малахия.

**23—24. Двое книги Махавеев.**

Другая пак часть Бивлии, еже ест «Новый закон» спасительный, суть книги четырех еувангелистов, или святое благовествование: Матфея, Марка, Луки, Иоана... Затым Павел-апостол ко седма церквам пишеть послания, осмое ко евреем, Тимофея и Тита и Филимона научаеть... Потом «Деяния апостолская». Потом святый Яков, Петр, Иоан, Иуда седм соборных посланий написали краткими словами, великое поучение нам оставляюще. На конци Бивлии Апокалипсия, или возъявления книга святого Иоана, положена есть.

**Duodecim prophetae minores, id est:**

26. Osea; 27. Ioel; 28. Amos; 29. Abdias; 30. Ionas; 31. Michaes; 32. Nahum; 33. Habacuc; 34. Sophonias; 35. Aggaeus; 36. Zacharias; 37. Malachias; 38. duo Machabaeorum, primus et secundus.

**Testamenti Novi:**

Quatuor Evangelia, secundum Matthaeum, Marcum, Lucam et Ioannem; Actus Apostolorum a Luca Evangelista conscripti; quatuordecim epistolae Pauli Apostoli: ad Romanos, duae ad Corinthios, ad Galatas, ad Ephesios, ad Philippenses, ad Colossenses, duae ad Thessalonicenses, duae ad Timotheum, ad Titum, ad Philemonem, ad Hebreos; Petri Apostoli duae; Ioannis Apostoli tres; Iacobi Apostoli una; Iudae Apostoli una, et Apocalipsis Ioannis Apostoli.

Enchiridion Biblicum, Romae 1927, nr. 43—44.



*Прарок Даніла са львамі*




*Выхадны ліст да ўсей Біблії*

Як чытач лёгка мог спасьцерагчы, нумэрацыя кнігаў так у сьпіску Скарыны, як і Трыдэнцкага Сабору, розьніцца між сабою, а гэта таму, што кожная зь іх мае крыху іншы падыход.

Скарына прыймаў за агульны лік усіх кнігаў Біблії 24, дзеля таго аднак, што называючы і коратка апісваючы кожную кнігу, не ставіў перад імі парадкавых нумароў, дык мы ў нашай схэме, захоўваючы ўсе скарынаўскія аўтэнтычныя назвы, стараліся ўгадаць яго думку, ставячы перад кожнай кнігай нумар.

Таксама і дэкрэт Трыдэнцкага Сабору, вылічаючы кнігі, не падае нумэрацыі. І ў гэтым выпадку нашая нумэрацыя ёсьць адвольная і зробленая толькі, каб лягчэй было дайсьці да пэўных вывадаў.

Скарына лічыў кнігі Біблії вялікім скаротам і таму мусіў улічыць ў адну кнігу аж некалькі розных аўтараў. У яго ня толькі 4 кнігі Цароў лічацца за адно, але тое самае зрабіў і з усімі пракамі, якіх разам было 16.

Па праўдзе, калі-б прыняць іншую сыстэму падліку біблійных кнігаў, г. зн. для кожнае зь іх даць асобны парадкавы нумар, дык

Старога Запавету будзе кнігаў не 24 (як у Скарыны) і ня 38 (як у нашай схэме), але 47, а кнігаў Новага Запавету — 27.

Найважнейшае і галоўнае аднак ёсьць тое, што лік усіх кнігаў Ст. і Новага Запавету, калі лічыць кожную з назваў скарынаўскіх кніг, атрымаецца ідэнтычна такі самы, як і ў сьпіску Трыдэнцкага Сабору, калі і тут лічыць сьвятыя кнігі гэтакім самым спосабам.

Нават у большасьці выпадкаў парадак Скарыны ёсьць той самы як і ў дэкрэце Трыдэнцкага Сабору. Гэта зусім зразумела, бо як Скарына так і Трыдэнцкі Сабор паўтаралі ўжо здаўна прыняты традыцыяй парадак, ад якога ніхто зь іх ня меў права адыйсьці.

У нашым вышэй пададзеным супастаўленьні мы падкрэсьлілі ў абодвых сьпісках тыя кнігі, аб якіх Алексютовіч няведама чаму цьвердзіць, што ў Скарыны яны былі, а Трыдэнцкі Сабор іх ня меў. І так маемо:

| У сьпіску Скарыны: | | У сьпіску Трыдэнцкага Сабору: |
|---|---|---|
| **Нумары: 8, 19 (Песьня Песьняў), 20, 21.** | = | **Нумары: 7,19, 20, 21.** |

З гэтага ясна вынікае, што цьверджаньні Алексютовіча і тых, на кім ён у быццам навуковай сваей працы апіраўся, ёсьць згрунту фальшывыя.

*

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць яшчэ адзін цікавы факт, што Скарына ня робіць ніякае розьніцы паміж кнігамі г. зв. дэўтаракананічнымі і кананічнымі.

Чаму яны завуцца дэўтараканананічныя, ці сказаць па беларуску, другарадныя?

Гэта таму, што жыды дзеля розных меркаваньняў, нават часта вузка-нацыянальных, бо т. назыв. дэўтараканнічныя кнігі ня былі напісаны на гэбрайскай мове, а на грэцкай ці іншай, — іх ня прызнавалі за аднолькава натхнёныя Богам. Пагляд жыдоў меў праз нейкі час уплыў таксама і на хрысьціянаў, асабліва пазьней на пратэстантаў. Даўнія грэцкія пісьменнікі называлі дэўтараканнічныя кнігі аспрэчванымі (antilegomena), а кнігі усімі прынятыя — omologoumena.

Жыды і пратэстанты дэўтараканнічныя кнігі ўважаюць за апокрыфы, г. зн. такія творы, дзе захаваны выгляд і стыль Біблії; дзе зьмест мае пэўную сувязь з Сьв. Пісьмом, але цэлы твор не залічваецца да канону (сьпіску) біблійных кнігаў. Апокрыфы былі пашыраныя ў старажыдоўскай і старахрысьціянскай літаратуры. Найчасьцей апакрыфічныя творы былі ананімныя і іх аўтары выступалі —калі наагул падавалася імя аўтара — пад нейкім скрытым псэўдонімам, часта надаючы сабе імя нейкага патрыярха або апостала.

Хто-ж такое спрэчнае пытаньне мае выраліаць, якая кніга ёсьць кананічная, а якая — апокрыф?

Для нас няма ніякага сумніву: той, каму гэтыя кнігі дадзены на перахаваньне і карыстаньне дзеля збаўленьня людзкіх душаў. Такімі ўстановамі да прыходу Хрыста была Сынагога — найвышэйшы ў Старым Запавеце аўтарытэт у рэлігійных справах. Пасьля Хрыста правы і абавязкі перайшлі на Сынагогу Новага Запавету — на Царкву. І таму ў гэтак важнай справе, як канон або лік Богам натхнёных кнігаў, можа аўтарытэтна падаваць толькі Царква.

Што яно так ёсьць, сьветчыць разыходжаньні вучоных і сьвятых адносна пэўных кніг. Прыкладам, сьв. Геранім, найвялікшы аўтарытэт у старадаўніх часах ,на якога няраз паклікаецца і наш Скарына, уважаў, што тыя кнігі, якія называем дэўтараканнічнымі, не павінны быць залічаныя да кананічных!

Аднак Царква, згодна з хрысьціянскай традыцыяй, якая выяўлялася перадусім на мясцовых саборах так лацінскай (картагінскі сабор), як і ўсходняй Царквы (сабор трулянскі ў 692 г.), улучыла ў сьпісак кананічных кніг і г. зв. дэўтараканнічныя. Найбольш урачыстым выяўленьнем хрысьціянскае традыцыі былі саборныя дэкрэты экумэнічных сабораў Флёрэнцкага (перад Скарынай), Трыдэнцкага і Ватыканскага І-ага (пасьля Скарыны).

Наш вялікі Скарына ня йшоў у разрэз здаровай хрысьціянскай традыцыі. Як бачым на вышэй прыведзеным сьпіску, ён уважаў усе кнігі Біблії раўнаважнымі.

Цікава заўважыць, што Марцін Лютар, сучасьнік Скарыны і пачынальнік г. зв. рэфармацыі, а ён-жа і перакладчык Біблії на нямецкую мову, ня быў наважаны прыняць ці адкінуць дэўтараканнічныя кнігі. Першым з пратэстантаў, пасьлядоўцаў Лютэра, быў Андрэй Карлёстадіо, які ў сваёй кнізе пад назвай „De canonicis Scripturis“, выданай у 1520 г. ня прызнаў дэўтараканнічныя кнігі як раўнаважныя іншым кнігам Біблії. Да сяньня пратэстанты розных кірункаў ідуць сьледам за ім.

*

Нарэшце, каб зусім закончыць пытаньне скарынаўскага сьпіску біблійных кнігаў, нам трэба сказаць пару слоў аб кнізе Баруха.

Калі Скарына вылічае ў прадмове да ўсей Біблії кнігі, пры прароках ён кажа: «Еремия теже написал Плач Еремии», гл. № нашага сьпіску 22, 2) і больш нічога. Звычайна аднак пасьля Ерэміі або называецца аддзель-

на прарок Барух, як гэта зрабіў Сабор Флёрэнцкі, — або ён спалучаецца з Ерэміям: „Ieremias cum Baruch“, як у дакрэце сабору Трыдэнцкага (гл. наш сьпісак № 23).

Чаму-ж Скарына зусім ня ўспомніў аб Баруху?

Нам ведама, што ў 1519 г. ў Празе Чэскай Скарына надрукаваў «Плач Ерэміі». Пытаньне: які быў зьмест той кніжкі? Можа там быў «увесь» Ерэмія і невялічкая кніга Баруха?

А мо' Скарына зусім пра Баруха забыўся? Не маючы магчымасьці ўгляду ў надрукаваную Скарынай кнігу, ня можам даць пэўнага адказу. Заўважым толькі, што Барух быў сакратаром прарока Ерэміі і запісаў ягоныя прароцтвы. Дзеля цеснай сувязі Баруха зь Ерэміям і дзеля большай ролі прарока Ерэміі, яго сакратар часта ў сьпісках біблійных кнігаў ня фігуруе як аддзельны аўтар, а проста спалучаецца са сваім настаўнікам. Таму магчыма і Скарына аб Баруху ня ўспомніў.

**(д. б.)**

Рым, 4. IX. 1967.

---

*Igino Giordani*

# Павал VI і Атэнагорас у Істамбуле



Гест Паўла VI, які не чакаючы прыезду Патрыярха Атэнагора ў Рым, паехаў сам першы ў днях 25 і 26 ліпня ў Новы Рым, каб зь ім спаткацца, ёсьць нязвычайнай прыгожасьці, пукаты сымболікай і багаты ў наступствы: гест, які насьледуе пакору Марыі і аднначасова сьветчыць аб хрысьціянскай любові. Таму гэты эпізод трэба залічыць да найважнейшых і да найбольш рашучых у сучасным экумэнізьме.

Папства апошняга дзесяцігодзьдзя сталася магутным маторам супакою сярод народаў, а цяпер таксама найбольш інтэлігентным дзейнікам адзінства між веручымі.

У Істамбуле Сьвяты Айцец спаткаўся таксама і зь вялікім Рабінам і зь вялікім Муфті: таксама ня выходзячы аднак за межы рэлігійнага характару свайго падарожжа — датарнаваўся да ўсіх вымогаў цывільнага пратаколу ў адносінах да турэцкага ўраду, яко-



му ўжо перад гэтым дня 29-га студня 1965 г. выказаў сваю прыхільнасьць зьвяртаючы сьцяг, узяты ў пераможным змаганьні хрысьціянаў супраць туркаў ля Лепанто ў 1571 г.

У асобе Папы саборная Царква адшуквае старадаўнія месцы і спалучаныя зь імі праўды: Зямлю першага евангельскага сейбіта (падарожжа ў Сьвятую Зямлю), Зямлю першых чатырох Сабораў, прыраўняных да чатырох евангелістаў: Ніцэя, Канстантынопаль, Эфэс, Хальцэдон.

У Эфэсе Папа жадаў у «Доме Найсьвяцейшай Дзевы» аддаць чэсьць Марыі прызнанай Маткай Бога. Той-сёй не сьцяміў значэньня гэтага кроку, але дастаткова заглянуць у Сьв. Пісьмо, дзе мы знойдзем прарочыя словы маладой дзяўчыны з Назарэту: «Усе-бо пакаленьні адгэтуль будуць зваць мяне багаслаўлёнай». Усе — значыць не вылучаючы і наша.

Стройна суровыя фігуры Паўла і Атэнагара прыпомнілі Апосталаў Паўла і Яна. У абодвых праявілася жаданьне праўды і любові, каб дайсьці да адзінства.

У газэце: «Ля Стампа» (з дня 23 ліпня 1967) падаваўся сказ Атэнагара: «Тут ёсьць памылка: трэба было-б называць не Павал VI, але Павал II, бо Папа, падобна як гэта рабіў Апостал Народаў, аднаўляе аб'еднаньне і адзінства Хрыстовай Царквы... Калі ён напісаў мне, што мяне адведае, я думаў, што гэта сон... Ён мяне апярэдзіў і за гэта дзякую Богу».

Папа і Патрыярх жадаюць зьдзейсьніць апошнюю волю-тэстамант Хрыста: «каб усе былі адно».

Перакрэсьліўшы экскамунікі дзесяці стагодзьдзяў, аднаўляючы закон любові, адкінуўшы ўсё, што дыктавала гордасьць і непаразуменьне, абодвы жадаюць пакончыць з тым пярэчаньнем Евангельля і з нязгодай між хрысьціянамі. «Па гэтым пазнаюць усе, што вы мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да другога». (Ян 13, 35).

І так Папа і Патрыярх у абдымках у Ерузоліме і ў Стамбуле, а таксама ў будучым у Рыме, зьмялі той штучна невееены курган непаразуменьняў, прадузятасьцяў, няпрыемных пачуцьцяў.

Нездарма прысутнічала імя і дух Ронкаллі.

*

Народ з радасьці сходзіў з глуздаў, народ, што ня меў удзелу ў падзеле Царквы. Падзел або схізма паўстаў блізу ўсюды праз амбітных палітыканаў, абслужаных праз нанятых або фанатычных багасловаў.

У цяперашнім здарэньні любоў узяла верх над культурай, якая пад уплывам тагачаснай тэалёгіі шмат спрычынілася да падзелу і дактрынальных непаразуменьняў, што ў сапраўднасьці ня існавалі.

H. Fesquet на бачынах «Ле Монд» (21 ліпня) прыпамінаў, што Кардынал Гумбэрт, каб апраўдаць кінутую ім экскамуніку ў 1054 на Канстантынопальскага Патрыярха Керула-



рыя, абвінавацію ягоную Царкву між іншым у тым, што яна выкінула з «Верую ў Бога...» Філіоквэ (паходжаньне Сьв. Духа і ад Сына). Усё гэта было нязгоднае з праўдай, бо Ўсходняя Царква ніколі ня мела ў сваім сымбалі веры «Філіоквэ».

А колькі-ж тэалёгі (багасловы) намазолілі языка на гэтую тэму!

Некалькі гадоў таму назад Атэнагорас сказаў: «Тэалёгія ёсьць адна, але багасловаў шмат!» І паўтарыў перад Клярай Любіч у часе прыемнай аўдыенцыі ў чэрвені: будучы юнаком, ён здабыў атэстат багаслова, але згубіў яго...

Калі заўладала любоў, пабудова недаверу ў большай частцы рухнула. Павал VI таксама пры гэтай нагодзе заявіў, што адзінства не азначае аднаформеннасьць: больш таго, яно ўзбагачваецца праз шматлікія абрады, звычаі, школы.

А Архіяпіскап Геранім, галава грэцкай Царквы, карыстаючы з той самай нагоды, сказаў: «Нашым жаданьнем ёсьць, каб уся Царква магла падтрымаць ініцыятыву Папы, праз якую ён стараецца абяспечыць супакой для нашых Цэркваў...»

Багаслоў Гамількар Алівізатос, праваслаўны грэцкае Царквы, перш заявіў: «Уважаю, што немагчыма прыняць даўняе цьверджаньне дзьвёх Цэркваў: рыма-каталіцкае і грэка-каталіцкае, асабліва пасьля той новай атмасфэры паміж дзьвюма Цэрквамі ад часу Яна XXIII: трэба было-б лепш гаварыць аб дзьвюх географічных частках адзінае Царквы Ўсходу і Захаду».

Падобнае цьверджаньне супадае з тым, што маемо выказана ў саборным дакрэце аб экумэнізьме і з тымі апошнімі распараджэньнямі адносна „Communicatio in sacris“.

Сяньня хрысьціяне ўжо не разумеюць, чаму дзьве гэтыя Цэрквы не маглі-б быць адзінай, захоўваючы свае апрычонасьці мовы, гістарычных традыцыяў або этнічнай рознасьці.

«Але — кажа ізноў Fesquet — якія там ня былі-б перашкоды, рух распачаты ў кірунку цэнтру усёроўна раней ці пазьней прывядзе да адзінай Інстытуцыі».

Канструктыўная дзейнасьць сучаснага Папства — у Істамбуле ня былі забытыя імёны Бэнэдыкта XV, Яна XXIII — пачынае прыцягваць, бо яна цесна спалучана з Марыяй, Маткай Царквы, якая мае адзінае жаданьне, каб прымірыць разумна сваіх дзяцей.

N. B. Igino Giordani — ведамы каталіцкі італьянскі пісьменнік, рэдактар часапісу «Чітта Нуова», скуль у невялікім скароце падаём і гэты артыкул. (Чітта Нуова, 10 жніўня 1967, № 15—16).

*Юрка Віцьбіч*

# Зарніца ў бязпатольнай цемры

## 1067 — Ворша — 1967

*«І сьвятло ў цемры сьвеціць*
*і цемра не агарнула яго»*

Іоан — 1 : 5

Далёка ад Полацку да Падуі. Ня бліжэй да яе ад Воршы. Але замалая зямля для вялікіх людзей, што аздабляюць сабой чалавецтва. Калі Полацак з Падуяй яднае Францішак Скарына, дык Воршу зь ёю лучыць сьвяты Антон Падуанскі, якога здаўна ўшаноўваюць беларусы. Таму на Беларусі шмат сьвятыняў ва ягонае ймя, а паміж імі й аўтар у Варшанскім касьцёле Нараджэньня Богамаці.

У 1195 годзе у Партугаліі, у Лісабоне, у адной з арыстакратычных сем'яў нарадзіўся Фэрнанд-дэ-Буйён. Набыўшы найлепшую для таго часу асьвету, ён адмовіўся і ад пасадаў, якія з гэтай прычыны меў магчымасьць атрымаць, і ад багацьця, што дастаў у спадчыну ад бацькоў і нават ад свайго сьвецкага ймя, а пасьля, як сьціплы манах закону мінарытаў, брат Антон пакінуў назаўсёды Лісабон. Высокі й худы, у старой, латанай, выцьвілай ад сонца і зьлінялай ад дажджоў сутане, падпярэзанай не беласьнежным пасам з шаўковымі кутасамі, а звычайнай пяньковай вяроўкай, нават узімку босы й з непакрытай галавой, ён, як казальнік, ішоў на працягу трох год ад вёскі да вёскі, ад гораду да гораду праз Партугалію, Гішпанію, Францыю, Італію. Ягоныя аскетычны выгляд з запалымі вачыма, у якіх заўсёды сьвяціўся агонь не зямнога натхненьня й глыбокай веры, ягоныя палкія й зьмястоўныя казаньні, у якіх вялікія веды выкладаліся зразумела для ўсіх, спакідалі на простых людзей вялізнае ўражаньне. Брата Антона часам суправаджалі натоўпы прыхільнікаў, а пад-час пільнавалі й ворагі — пераважна непадобныя да яго іншыя манахі — каб забіць. Запальваючы вакольных і пры тым згараючы сам, ён памёр у 1231 годзе не старым, трыцацішасьцёхгадовым, у Падуі. Але ці памёр, як паміраюць сьмяротныя? Агонь сьвятога Антона Падуанскага аж праз сем стагодзьдзяў асьвяціў нас у бальшавіцкай бязпатольнай цемры, як тая зарніца ўночы.

У 1939 годзе ў Воршы працавала навуковая экспедыцыя, якую мне давялося ачольваць. Мы дасьледвалі помнікі гісторыі й мастацтва, у сваёй бальшыні занядбаныя, паглумленыя, напоўразбураныя. Тутэйшыя савецкія ўрадоўцы заглядаліся на нас сьпярша, як на адарваных ад жыцьця недарэкаў, што заслугоўваюць спагады, потым у часе фатаграфаваньня паасобных помнікаў ужо арыштоўвалі, як шпегаў, але пасьля азнаямленьня з нашымі абароннымі дакумантамі зь Менску, зь нейкім расчараваньнем адпушчалі.

Перадусім нас зацікавіла ля ўтоку рэчкі Варшыцы ў Дняпро старадаўняе замчышча. Тут у 1067 г., у тагачасным урочышчы «на Рши у Смолиньска» кіеўскі князь Ізяслаў падступным чынам паланіў славутага полацкага князя Ўзяслава. Акурат з гэтай нагоды й згадваецца ўпяршыню ў летапісу Ворша, якая сёлета адзначае сваё 900-годзьдзе. Дырэктар раённага прамкамбінату ці староста вадзянога млыну на Варшыцы не дазволіў нам зрабіць на падуладным яму колішнім замчышчы архэалёгічныя выведы. І мы абмежаваліся дасьледваньнем рэшткаў аднаго з ранейшых валоў.

Насупраць, на тамабочным беразе не шырокага тут Дняпра, амаль перахавалася прадмостнае, што ў пляне мела форму трохкутніка, умацаваньне Паўночнай вайны, вядомае ў народзе як — акопы Пётры Першага. Наведаўшы ў 1706 г. Воршу, цар, слынны на Беларусі як падпальнік ейных гарадоў ды забойца манахаў, загадаў выкапаць яго для абароны пераправы. Адзін з бакоў гэтага трохкутніка падмыў зь цягам часу Дняпро, а іншыя два, паступова зьнішчаючы іх, разворвала арцель біндзюжнікаў, якая арандавала ў гарсавета пад агароды былое вайсковае ўмацаваньне.

Там у Воршы, дзе Савецкая вуліца пераходзіла ў Шклоўскі шлях, мы агледалі цагляны абеліск, спакінуты 18-м стагодзьдзем. Гэта быў адзін з двох-трох дзесяткаў вярставых гэтак званых Кацярынінскіх слупоў, што захаваліся на Беларусі. Пасьля падзелу Рэчы Паспалітай Кацярына Другая перад сваім падарожжам па захопленай ёю краіне загадала абсадзіць паштовыя шляхі абапал бярозамі ды паставіць на іх вярставыя слупы. З гэтага Кацярынінскага слупу ў Воршы аблез тынк, зьверху зьнікла сьпічастае кап'е, у ягоным падмурку быў значны выбай, каля якога хтосьці, браўшы пясок, спакінуў вялікую яму, нібы падрыхтоўваючы магілу для абеліску.

На ўзвышаным беразе Варшыцы, адкуль цэнтр Воршы відаць як на далоні, на працягу стагодзьдзяў знаходзіліся жыдоўскія могілкі. Мы не знайшлі іх. Гарсавет загадаў разьбіць тут помнікі, каб ужыць іхні камень для брукаваньня вуліцаў, а плошчу могілкаў скарыстаць пад парк адпачынку. Ацалела толькі тая, якую мы й шукалі, брацкая магіла 22-х ахвяраў рэвалюцыі 1905 г., забітых царскімі драгунамі. Невядома ці захавалася яна за часы вайны, а калі й захавалася, дык наўрад ці ахоўваецца тамтэйшымі касыгінскімі антысэмітамі. Яшчэ й тады блюзьнерская рука сапсула на ейным помніку шасьцёхкутовую зорку цара Давыда, але ўнізе захаваўся надпіс на старажытна-жыдоўскай мове:



*Касьцёл Нараджэньня Богамаці. Ворша. 1939. Здымак Ю. Віцьбіча*

«Так кажа Госпад Бог: вось Я адкрыю труны вашыя і вывяду вас народ Мой з трунаў вашых і ўвяду вас у зямлю Ізраілеву».

Нам не пашанцавала наведаць гістарычны Куцеінскі праваслаўны манастыр, пабудаваны ў 1623 г. — яго захапіў пад свае склады Ваенвед. Зводаль, ад ціхай рэчкі Куцеінкі, што надала сваё імя манастыру, мы дзівіліся на ягоную прыгожую старадаўнюю царкву са скінутым цяпер купалам з крыжам, але не пабачылі ейныя цудоўныя фрэскі, аб якіх шмат чулі раней. А паблізу ад царквы заўважылі й будынак, дзе знаходзілася ў 17-м стагодзьдзі славутая друкарня — зь яе выйшла шмат карысных кніжкаў, а паміж імі «Букварь» друку Сьпірыдона Собаля і другое выданьне «Лексікону славенароскага» Памвы Бярынды, пра які ў сваёй прадмове да яго слаўны тутэйшы ігумен Ёіль Труцэвіч пісаў: «як ест потребный и пожиточный многим».

У трох кілямэтрах ад Воршы, на беразе Дняпра, у мясцовасьці Дубкі, мы дасьледвалі пячору, выкапаную ў канцы 18 стагодзьдзя куцеінскімі манахамі. З трох колішніх уваходаў у яе захаваўся толькі адзін, які нагадываў нару. Мне давялося аднаму, паволі, нагамі ўпарод, палезьці ў гэтую нару, якая неўзабаве пашыралася і я, выпрастаўшыся на ўвесь рост, запаліў захопленую з сабой сьвечку. Пячора была выкапаная ў пяшчана-гліністых адкладах зь вялікім дадаткам рачнога жвіру, а ейныя сьцены ўмацоўвала толькі карэньне вякавога дубу, што рос над ёй і разам зь іншымі дубамі даў назоў урочышчу.

Калі спакідаючы сярэднявечча, я вылазіў зь пячоры, дык адразу вычуў савецкую рэчаіснасьць. Удзельнікі экспедыцыі, каля якіх стаялі ў цывільным, крычэлі мне, як свайму збаўцу: «Пакажеце таварышам паперу аб нашым праве на вокамерны плян, які вы загадалі нам зрабіць! Мы арыштаваныя».

. . . І пазьней у тыя падсавецкія нялюдзкія ночы 30-х гадоў я ўва сьне кашмарыў. Мне прыгадвалася, як у часе майго наведваньня пячоры зь ейных сьценаў звальваліся пасобныя пяшчынкі, а часам яны нават пачыналі цурчэць, як маленькі вадаспад. І мне здавалася, што высачэзны дуб з пашкоджанай пяруном вяршалінай больш ня ўтрымае сваім карэньням тысячапудовы зямельны цяжар, а той вось-вось абваліцца й раздушыць мяне, жыўцом пахавае ў варшанскай пячоры.

Калі бальшавікі прыстасоўвалі ў Воршы паруганы праваслаўны сабор пад «Дом культуры», дык знайшлі ў таўшчэзных сьценах ягонага скляпеньня труны манахаў трынітараў, да якіх калісьці належыў будынак. На іхніх касьцяках захаваліся рэшткі сутанаў, а на грудзёх яны мелі крыж і пры боку меч. Сьпярша я не даў гэтаму веры, але трапіўшы ў Воршу, пагаварыўшы там з жывымі сьведкамі гэтай знаходкі, пабачыўшы адмысловыя фотаздымкі, пераканаўся ў тым, што пагалоска адпавядае праўдзе. Бяз сумлеву гэты меч зьяўляўся толькі сымбалічным і ўсё-ж не адпавядаў ён хрысьціянскай сымбалічнасьці крыжа. Таму, падыходзячы да будынку былога францішканскага кляштару, пабудаванага ў 1680 г. я старанна адганяў ад сябе прадузяты погляд, на які не мае права дасьледнік.

Змрочны выгляд меў гэты цагляны двухпавярховы будынак. Толькі сям-там захаваўся на ягоных сьценах тынк, і плямы на ім нагадывалі рабізну, спакінутую воспай на твары. Цалкам захаваліся вапенныя швы і *нават ад часу здаваліся акамянелымі*, за тое цэгла паміж імі абы-дзе выпятрылася ды вывалілася, а таму самае кладзеньне сталася падобным да пчаліных сотаў. Яшчэ больш пануры выгляд усяму будынку надавалі таўшчэзныя краты ў маленькіх і брудных вокнах. Увогуле вонкавы выгляд будынку бяз словаў сьветчыў аб тым, што ягоным сучасным гаспадаром зьяўляецца гаркамгас — аддзел камунальнай гаспадаркі гарсавету.

Двохпавярховы будынак меў і двохпавярховае сутарэньне. Мы спушчаемся ў глыбейшае — бяз вокнаў із сьценамі таўшчынёю больш за тры мэтры. Паветра сюды дасягала толькі праз адтуліны, што, пачынаючыся ад падлогі, мелі ў вышыню пяць цэнтымэтраў, у шырыню — дзесяць і пад кутом у 45 градусаў ішлі ў сьценнай грубіні дагары, маючы каля пяці мэтраў даўжыні. Толькі лёгшы на вільготную падлогу можна было заўважыць недзе, здавалася страшэнна далёка, палоску дзённага сьвятла. А ў сьцянох мы пабачылі колцы з рэшткамі іржавых ланцугоў.

Сьцьвярджэньні некаторых расейскіх дасьледнікаў, нібы сюды калісьці саджалі праваслаўных, не адпавядае праўдзе хіба ўжо таму, што францішканскі манаскі закон, паводля самага свайго статуту, не зьяўляўся інквізіцыйным. На падставе архіўных дадзеных, як і пасьля гутаркаў са сьветкамі, экспедыцыя ўдакладніла, што калі пасьля паўстаньня 1863 г. Польшчы, Літве й Беларусі царызм скасаваў кляштар, дык у ягоным будынку зьмяшчалася сьпярша махорачная фабрыка, потым з 1903 і па 1928 гады царская й бальшавіцкая турма, пасьля прафтэхшкола й нарэшце — майстэрня Белдзяржтранса ў вышэйшым сутарэньні, а ў двох паверхах зь няпрыбранымі кратамі ў вокнах жылі работнікі гарадзкой разьніцы, а ў перакладзе на савецкую мову стаханаўцы раённага мясакамбінату.

Можа яшчэ больш падкрэсьлівала ўсю брыдоту расейскага царызму тое, што прыстасаваўшы будынак пад турму, ён спакінуў на ягоным франтоне барэльеф сьвятога Францішка Асізкага. Што мае агульнага з кратамі й ланцугамі сьвяты, які маліўся за людзей да зьяўленьня стыгматаў — крывавых адзнакаў Хрыстовых ранаў — на сваім целе? Бальшавікі зьнішчылі барэльеф, зьмясьціўшы на ягоным мейсцы эмблему прафсаюза дрэваапрацоўнікаў, а пад ёй вывабілі сугучныя кратам і ланцугам словы Леніна:

«Прафсаюзы — школа камунізма».

А на стрыкатым ад каляровых латаў даху будынку пабудавалі пляцоўку з парасонам для вартаўніка, які мусіў ахоўваць гэтую цяперашнюю бальшавіцкую нэндзу ад замежных дывэрсантаў.

Праз двор мы падыходзім да велічнага старадаўняга касьцёлу Нараджэньня Богамаці, дзе меўся аўтар сьвятога Антона Падуанскага, сучасьніка сьвятога Францішка Асізкага і аднаго з першых Францішканаў. Касьцёл з чатырох бакоў падпіраюць моцныя контрафорсы. На ягонай званіцы замест ранейшых кумпалу й крыжу ўзвышаецца цяпер пляцоўка для зэнітнага кулямёту. Праз праламаную ў бакавой сьцяне браму мы моўчкі праходзім у зьняважаны Дом Божы, прыстасаваны пад гараж белдзяржтранса. Абшарпаныя ды латаныя аўтабусы займаюць усю плошчу будынку, дзе мы дарма шукаем якога-небудзь сьледу ягонага ранейшага высокага прызначэньня.

І раптам я ўздрыгнуў. У вузкім праходзе паміж аўтабусамі на падлозе перад аўтаром сьвятога Антона Падуанскага відаць быў мазаічны надпіс:

Salve!

Дабрыдзень!

— а пад ім, паміж першай і апошняй літарай старагрэцкага альфабэту, паміж Альфай і Амэгай, меўся Лябарум — крыж Канстантына Вялікага.

Salve!

Сьвяты Антон Падуанскі вітаў нас гэтак далёкіх ад яго па часу. Хто-б ты ня быў — кароль ці жабрак, католік ці праваслаўны, дзед ці дзіця:

Salve!

І прыгадалася мне тады з натхнёнага агняпісу — Апакаліпсісу:

«Я ёсьць Альфа й Амега, пачатак і канец. кажа Госпад, які ёсьць і быў і прыйдзе, Уседзяржыцель».

А пасярэдзіне — Лябарум, што меўся на сьцягох рымскіх легіёнаў, крыж магутнага імпэратара Рыму й закладніка Канстантынопалю, зь якіх асьвяціла Беларусь Сьвятло Хрыстовае.

Пасвайму, паправаслаўнаму, я ў душы пабожна перахрысьціўся і з болям у сэрцы выйшаў з паруганага касьцёлу Нараджэньня Богамаці.

# „Дзённік душы“ Яна XXIII



Прайшло тры гады ад сьмерці Папы Яна XXIII, але памяць аб ім не замірае дый яшчэ ажывілася пры нагодзе ягонага «Дзённіка Душы», які нядаўна выйшаў з друку ў Італіі і цяпер перакладаецца на мовы ўсяго сьвету і чытаецца зь вялікай карысьцяй для душаў такіх простых людзей, якім быў сам Папа Ян.

Скажам тут кароценькае слова аб яго жыцьці, аб сьмерці і аб тым славутым «Дзённіку», а ўканцы зьмесьцім некаторыя выдатныя думкі з таго-ж Дзённіка.

I. Ян XXIII нарадзіўся 25 лістапада 1881 ў Сотто іль Монтэ, паўночнай правінцыі Бэргамо ў Італіі. Ягонае хростнае імя Анёл-Язэп, фамілія Ронкаллі.

Ужо маючы 11 гадоў уступіў у Малую Духоўную сэмінарыю, а 14 гадоў пачаў пісаць свой «Дзённік Душы» і працягнуў яго праз усё сваё жыцьцё: спачатку толькі былі некаторыя аднатацыі з духоўнага жыцьця і поступу душы, а ад 17 гадоў ужо ідзе нармальны курс духовага жыцьця — часам штодня, а часьцей зь меншымі ці большымі перапынкамі. Будучы дарослым чалавекам, пісаў даволі рэдка, але пераглядаў і адчытываў даўнейшы Дзённік, нармуючы да яго сваё бягучае жыцьцё, каб ня толькі не апусьціцца ў Божай службе, але разьвівацца бязупынна. I толькі перад сьмерцяй перарваў гэты занятак. (Памёр 3. VI. 1963).

Студыяваў у г. Бэргамо і ў Рыме. Падчас студыяў у вышэйшай сэмінарыі, калі здаў эгзамены з тэалёгіі, быў закліканы на службу ў войска: там авансаваў на капраля і на сержанта. Пасьля году звольнены ў 1902 і далей студыюе ў сэмінарыі. У 1904 атрымаў ступень доктара тэалёгіі.

Вельмі хацеў вучыцца далей, але біскуп у Бэргамо Г. М. Радіні заклікае маладога сьвятара Ронкаллі да сябе на сакратара. Праца была вельмі клапатлівая і прыкрая, але Язэп Ронкаллі пакараўся, колькі мог, працаваў ахвотна і ахвярна. Апрача таго надалі яму яшчэ прафэсуру ў сэмінарыі Бэргамо. I прытым працуе пяром у органах духоўнае прэсы і вядзе прыватную працу з гісторыі Царквы.

Біскуп Радіні быў сам працавітым і пабожным: вёў сваю дыяцэзію ў духу паступовым і энэргічна, але найбольшая адказнасьць клалася, ведама, на паслушнага сакратара. Усё гэта трывае 10 гадоў, да сьмерці таго-ж біскупа, у г. 1914.

У 1915 Язэп Ронкаллі пакліканы ў войска на капэляна ў ваенных шпіталях падчас вайны Італіі зь немцамі.

У 1918 звольнены з войска і назначаны айцом духоўным у сэмінарыі Бэргамо. А ў пачатку 1921 пераведзены ў Рым да працы ў справе Пашырэньня Веры: цяпер пасылаюць яго па розных дыэцэзіях Італіі для арганізацыі гэтай «справы», а пасьля і заграніцу ў розныя краі Эўропы.

У 1925 атрымаў назначэньне на Візытатара Апостальскага ў Баўгарыі: становішча было вельмі труднае, бо трэба было паўафіцыяльна спаўняць абавязкі Дэлегата Ватыкану на Баўгарыю. У гэтым часе прыватна візытаваў Турцыю, Югаславію, Польшчу. Нарэшце быў прызнаны афіцыяльным Апостальскім Легатам у Баўгарыі і прабыў там да 1935 (10 год).

Тады Анёл-Язэп быў назначаны Апостальскім Дэлегатам у Турцыі і Візытатарам у Грэцыі. Ён зара пачынае там візытаваць адну і другую Мэтраполію і вастравы (абтокі). Старанна вучыцца турэцкае і грэцкае мовы, як у Баўгарыі вучыўся па баўгарску і дасканаліў францускую. Наведвае праваслаўныя манастыры ў Атос (Афон), пасьля Лібан і адбывае пілігрымку ў Палестыне. — На гэтых становішчах прабывае яшчэ 10 гадоў. — Паміма таго, што праз два дзесяткі гадоў быў адарваны ад дарагой яму Італіі, дый у касьцельнай працы між чужымі элемэнтамі быў выстаўлены на розныя труднасьці, аднак ні разу не прасіў ні звальненьня, ні перамяшчэньня, спаўняючы абавязкі, нават самыя трудныя, цярпліва, вытрывала і з добрай усьмешкаю.

Неспадзявана Ронкаллі 1-га студня аказаўся ў Парыжы, дзе быў назначаны Апостальскім нунцыям у Францыі.

Наведвае Бэльгію, Галляндыю ,пасьля Альгерыю ў Афрыцы. А ў Францыі няраз спатыкаўся і зь беларусамі, якія пасьля яго міла ўспаміналі.

У 1953 стаў кардыналам і назначаны тады на месца арцыбіскупа ў Вэнэцыі з тытулам Патрыярха.

Адбывае падарожу да Гішпніі і да Лібану на Кангрэс у Бэйруце. І яшчэ пасьля адведвае Партугалію і там Фатіму.

9. X. 1958 сьмерць Папы Пія XII.

28. X. 1958 Кардынал Анёл-Язэп Ронкаллі неспадзявана, маючы 77 гадоў выбраны на Папу і прыймае імя ЯНА XXIII.

13 лістапада 1960 адправіў у катэдры сьв. Пятра ў Рыме Літургію ў славянскім абрадзе.

*

11. X. 1962 адчыняе II-гі Ватыканскі Сабор. Першая сэсія зачыняецца 8. XII. 1962 г.

Апрача Сабору да найважнейшых актаў Папы Яна залічаецца яго энцыкліка „Pacem in terris“, значыць — «мір на сьвеце». А 3-яга чэрвеня 1963 г. Ян XXIII памёр.

*

II. Смерць гэтага Папы была справай цалкам зразумелай: чалавек памёр у нармальных старых гадах. Аднак сталася нешта нязвычайнае: на вестку аб яго цяжкой хваробе, узварушыўся ўвесь сьвет. Пісалі і гаманілі: «Паміраe Айцец усіх людзей!» Тэлеграмы ляцелі з усіх канцоў зямлі ў Ватыкан. Дасюль ніякі Папа ня ўзбудзіў такой хвалі спачуваньня, малітваў і пытаньняў аб здароўі. І веручыя і навет няверучыя сумавалі, непакоіліся і цікавіліся, што стане з Папай? Нават здараліся такія наіўныя тэлеграмы, як: «Айцец Сьвяты, ня ўмірай!» — Або: «Я ня веру ў Бога, але малюся за здароўе Папы . . .»

Масы народу стаялі днём-ноччу на пляцы сьв. Пятра перад Ватыканам, чакаючы вестак памысных ці трывожных. А ўжо-ж сьмерць выклікала вялікую жалобу ўсяго чалавецтва . . .

Паўстае пытаньне, чым Ян XXIII ўзбудзіў такі разгалос між людзьмі? Можа Саборам, якога Царква так доўга чакала? — Аднак можам пэўна сказаць, калі-б і ня было Сабору, то слава Папы Яна вырасла-б і міма Сабору. — Дык якія былі яго заслугі для чалавецтва?

Сапраўды, трудна гэтае выясьніць! Бо ня быў ён ані такі вучоны і мудры, як Леў XIII, ані такі прамоўца, як Пій XII, ані быў выдатным дыпляматам . . . Толькі ўсюды і заўсёды быў самым простым чалавекам. Так, Анёл-Язэп Ронкаллі, а пасьля — Ян XXIII, ад малых гадоў, калі быў вучням, студэнтам, жаўнерам, сьвятаром, біскупам, кардыналам і Папай, заўсёды стараўся — у сваім доўгім, трудным і ахвярным жыцьці — ў глыбокай любові да Бога і чалавека — быць самым звычайным і простым чалавекам!..

Нам усім здаецца, што тут няма нічога труднага, каб кожны з нас быў «чалавекам»? Бо мы такімі радзіліся. — На жаль, гэта ня лёгка! Аж трэба было, каб Бог Айцец паслаў свайго Адзінароднага Сына на сьвет, каб нам паказаў сапраўдны абраз натуральнага простага Чалавека. А пасьля Ісуса Хрыста толькі Божыя Сьвятыя найбліжэй ставаліся падобнымі да Хрыста. — Дык вось наш змучаны войнамі і рэвалюцыямі сьвет прачуў і пазнаў, што Ян XXIII ёсьць сапраўды найбліжэйшым абразом Хрыста і ёсьць — адзін на мільярды людзей — самы натуральны, як называлі, «Добры Ян», найбольш просты, мілы ЧАЛАВЕК. І адразу ўзьнік кліч да Ватыкану, каб прызнаць яго сьвятым!

*

III. Уласна з «ДЗЁННІКА ДУШЫ» можна пазнаць душу, характар і дзейнасьць Яна XXIII.

Пачаўшы ад 14 гадоў запісываць свае перажываньні, Анёл-Язэп Ронкаллі паступова,

хоць нязначна, узрастае і дасьпевае духова — аж да найвышэйшай дасканальнасьці. Усьцяж аднаўляе пастановы, сам сябе стыдзіць і карае за нядбальства ці ляніўства. Моліцца найпакарней да Бога і да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, просячы помачы для сваёй слабай і беднай душы.

Дык вось тая вытрывалая праца і малітва пачынае даваць памысныя рэзультаты. Але ён — клерык і сьвятар, біскуп і Папа — ніколі цалкам не давярае сваей грэшнай натуры: не скарачвае ні малітваў, ні стараньня. Прыймае ад Бога ўсялякія непаводзіны і цярпеньні, таксама пакорна пераносіць духовыя труднасьці, а нават вонкавыя памылкі, няўдачы, — бо ў жыцьці шукае толькі хвалы Божае і дабра для людзей. Памагае, як і дзе можа, усімі сродкамі і ахвярамі, кожнай людзкой бядзе, вядучы сам жыцьцё — на ўсіх становішчах — скромнае і агранічанае. Гэта найясьней выразілася ў ягоных энцыкліках — «Акружных Пасланьнях» да людзей добрай волі, у якіх бароніць інтарэсы найбольш патрабуючых работнікаў і наагул беднаты.

Таксама важнае значэньне мае ягоная асабістая тактыка жыцьця, калі сам сабе ставіць абавязак п р а с т а т ы ў мове і ўчынках, дый яснасьці дзеяньня, практычнае любові бліжняга ... «не гаварыць шмат, не абмаўляць нікога, цярпець ціха, а нават вясёла дзеля Бога і дабра іншых людзей».

Мусіць гэта і была прычына папулярнасьці і любові да Яна XXIII? І мусіць таму «Дзённік Душы» стаўся таксама ўлюблёнай кніжачкай усіх народаў сьвету ,якія сьпяшаюць перакладаць яе на сваю мову, і чытаюцьчытаюць ...

Вялікая шкода, што мы, беларусы, ня можам тымчасова здабыцца на гэта!

*

IV. ДУМКІ ПАПЫ ЯНА XXIII (З «Дзённіка Душы» — з малых яго гадоў).

Чытайце мала, але добра! — Пачынаю нанава, як-бы дасюль нічога я не зрабіў, абсалютна нічога!

Буду вельмі пільнаваць я з ы к а, каб ня весьці доўгіх гамонак, каб не чапаць тэмаў задзёрыстых і некарысных.

Маё «Я» мусіць перастаць існаваць у гутарках, як-бы яго сапраўды на гэтым сьвеце ня было.

Паўната с у п а к о ю ўва ўсім, асабліва, калі штосьці ня ўдаецца.

Колькі-ж гэта разоў у запале навукі — пабожнасьць сходзіць на другі плян!

Не пазваляць сабе хаця і найлягчэйшае абмовы маіх таварышаў, маіх бліжніх!

У гутарцы вялікая стрыманасьць— так у форме, як і ў зьмесьце. Сьцерагчыся, каб не гаварыць аб бліжніх.

Гаварыць мала, але добра. Умець маўчаць ... каб нікога не зьняважыць і пазволіць, вераб'ям — няхай цьвіркаюць.

Бог не зважае на колькасьць учынкаў, але на спосаб, як яны былі дакананыя.

Буду вельмі цаніць кожную мінуту часу.

Прыгожыя і вартасныя гады шыбка мінаюць.

Зраблю тое, што здолею зрабіць.

... жыцьцё ахвяры і аднačасна радасьць, лагоднасьць і супакой.

Я такі як тая птушка, што сьпявае сярод церняў.

Трэба ўмець цярпець, каб не даць пазнаць па сабе, што церпіш. Хаця мяне меліся-б стаптаць, хачу быць цярплівым і добрым да геройства.

Ведаю, што я ліхі і мізэрны, але трываю ў моцнай пастанове стаць сьвятым, — за ўсялякую цану, спакойна й цярпліва, аддаючыся цалкам Ісусу.

Пры гэтым — ніякага заняпаду духа, насупраць: мушу быць заўсёды радасным, заўсёды пагодным, заўсёды адважным, аж да апошняе гадзіны.

Уважная дабрата, цярплівая і паблажлівая, лепш і шыбчэй дзеіць, чым суровасьць і розга.

Крыху менш яды — пэўна мне зробіць добра.

Буду тым, чым Госпад хоча, каб я быў.

Хачу Табе (Божа) служыць так доўга, як толькі захочаш, за ўсякую цану, коштам усякае ахвяры.

*

УВАГА: Гэтыя думкі пераважна ўзятыя з самых маладых гадоў Анёла-Язэпа Ронкаллі.

*Д. Анісько*

# Марыя — ўладарка Беларусі

У 1656 годзе кароль ЯН-КАЗІМІР аддаваў каралеўскую карону і разам з гэтым усякую ўладу над усей дзяржавай на вечнае ўладаньне для Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Гэтая ганаровая ахвяра абыймала ўсе землі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага — Летуву, Украіну і нашую Беларусь, якая была ў цэнтры Княства.



Ад гэтага часу Беларусь фармальна і праўна належыць да Божае Маці Марыі.

І хаця Прачыстая Дзева і так ёсьць Уладальніцаю ўсіх людзей, але некаторыя краіны спэцыяльна аддаліся пад Яе апеку.

Гэта нас асабліва радуе і мы з большым даверам можамо зьвяртацца да Яе.

Але, каб было нам магчыма спадзявацца больш пэўнай помачы і ратунку ў нашых бедах і турботах — асабістых, грамадзкіх і народных, — мы, як сыны гэтага краю і народу, павінны сьцерагчыся ўсяго нягоднага, а да Багародзіцы мець належную пашану і шчырую любоў у сэрцы.

Бо ці-ж было-б адпаведна для любячых дзяцей такой слаўнай Маткі, калі-б жылі ў сварках, у злосьці, у ненавісьці? Ці ў абмовах, у крыўдзе і подласьці? Або як жывуць іншыя ў неўпарадкаваным жанімстве, ці ў фальшывых разводах, дый пакінуўшы без апекі дзяцей...

Ды яшчэ вунь там у зьняволенай Бацькаўшчыне, дзе недахоп рэлігійнае свабоды і наагул прыгнечаньне асобы і ўсяго народу, — там тымбольш бывае аказіяў да прыватных і публічных грахоў.

А гэтым часам «жыць бяз Бога немагчыма!» — як сказала Сьветлана Алілуева (Сталін).

*

Усе на сьвеце ведаюць — справа ня новая, што жыцьцё бяз Бога ёсьць таўкатня бяз ніякага сэнсу — нягодная разумных істотаў.

Аднак нямала людзей, а нават цэлыя сыстэмы апанаваныя бязбожнай ідэялёгіяй імкнуцца і другіх неасьцярожных адарваць ад веры ў Бога. Дабро ня прыстае да другіх гэтак як зло: здаровы чалавек не абдаруе другога сваім здароўем, а хворы заразнай пошасьцяй вельмі лёгка заражае іншых.

Калі атэісты могуць — пры помачы дзяржаўнай апаратуры — весьці сваю прапаганду, дык чаму-ж веручым не даецца такая самая магчымасьць свабодна весьці сваю апостальскую працу? Калі-ж гэтага няма, дык для веручых дзеіцца цяжкая крыўда: дзе-ж тая «свабода, роўнасьць і брацтва», аб якім гавораць атэісты ў прапагандзе? Траціць на гэтым усё нашае беларускае грамадзтва: гэта-ж ясна, што вера ў Бога стрымлівае людзей ад усякае несправядлівасьці і наагул ад злачынстваў. Вера мацней дзеіць, чым якія цывільныя правы і законы, ці найбольш жорсткія кары.

Хаця нават сама інтэлігенцыя чалавека і ягоны гонар не пазваляюць на ніякія злачынствы, але паслушэнства Божаму праву і боязьнь Божага суду бывае далёка больш скуткоўным у нашым жыцьці.

*

Тэхнічны поступ чалавецтва на ўсім сьвеце, а таксама і ў нашым краі, цяпер ёсьць даволі значны. Аднак само толькі дачаснае шчасьце не дастатковае: чалавек мае патрэбы вышэйшыя.

Д-р Вгітэ кажа: «Хачу адзначыць сьцьверджаны факт, што рэлігійнае разважаньне, адпраўляньне набажэнства і малітва — часта прычыняе ня толькі ўзьнясеньне душы, але таксама дае пацеху розуму і адпачынак фізычны».

Мы тут на эміграцыі ўсяго гэтага не адчуваем, але там у нашай Бацькаўшчыне на кожным кроку ўзьнікаюць вялізныя труднасьці: рэлігійнае жыцьцё там спаралізаванае або зьвіхнутае. Праўда, за веру цяпер ня мучаць і высылка не паграждае, але ўсё грамадзкае жыцьцё так у іх збудаванае, каб адцягнуць людзей ад Бога.

І каму і ў чым вера перашкаджае? Бог-жа не пазваляе рабіць нічога благога, а кажа жыць справядліва і тварыць дабро.

Падумайце, колькі на сьвеце злосьці, ненавісьці, ашуканства, няпраўды і ўсякіх злачынстваў, а нават забойстваў!..

А ці-ж сэрца чалавека не жадае супакою, бясьпечнасьці, свабоды, чыстае праўды і міласьці?.. А гэтага якраз навучае Божы Закон.

*

Дзіўная справа!
У той самы час, калі мяркуюць ляцець на месяц і іншыя плянэты, дык тут, на нашай плянэце жыцьцё цалкам дарэмна псуецца ўзаемным шкодніцтвам, эгаізмам ці лёгкадумнасьцяй. Тут нават чаго-чаго, але іншыя не маюць рэлігійнае свабоды — гэтай адной з галоўных падставаў для нармальнага разьвіцьця як адзінкі, так і ўсей грамадзкасьці.

Быўшы прэзыдэнт Інданэзіі Сукарно, якім-бы ён ня быў, але ў часе свайго ўрадаваньня прасіў, каб прыслалі туды місіянэраў. І яны паехалі і там працуюць дасюль. Значыць, і такі Сукарно разумеў значэньне духоўнае працы каталіцкіх місіянэраў.

А як-жа прыдаліся-б добрыя місіянэры для нашае Беларусі! — Бо што датычыць сьвятароў, то пасьля ўсяго таго, што нашая краіна перажывала, асталіся там сьвятары старыя, хворыя, — як недабіткі, што перанесьлі цяжкое гора. А прытым кожнаму з іх трэба абслугоўваць па некалькі парахвіяў. А сьвятыні пераважна або разбураны, або абернены на іншы ўжытак.

У часе апошніх войнаў праз Беларусь прасоўваліся фронты то туды, то сюды. Вёскі гарэлі. Адзін эмігрант гаварыў, што ягоную хату партызаны спалілі разам з усёю сям'ёю: ён адзін астаўся жывы, бо у той час ня быў дома. Адзін пісьменьнік кажа, што «кожны чацьвёрты з сыноў і дочак (Беларусі) ляжыць у брацкіх курганах-магілах». А з жывых людзей цэлыя цягнікі пераважна найбольш здаровых і здольных да працы вывозіліся на Захад або на Ўсход.

Так! Беларускі народ перацярпеў больш ад другіх. Ці-ж не пара яму жыць паводле ягонага сумленьня?

Калі ў Фатіме пачыналіся цудоўныя аб'яўленьні Дзевы Марыі для траіх дзяцей (1917), а яшчэ перш (1858) у Люрд для адной дзяўчынкі Бэрнадэты, тады варожыя ўлады ў абодвых выпадках цягалі дзяцей на ўсякія допыты, страшылі і пагражалі ім. Але дзеці ўсёроўна трымаліся праўды аж да астатку, нават калі ў Фатіме іх разьдзялілі і пагражалі самай страшнай сьмерцяй, («тыя ўжо згарэлі, будзе гэта і табе, калі не скажаш праўды!»).

Эстрадэ, адзін з прыхільнікаў малой Бэрнадэты, тады ўжо казаў, што «малая Бэрнадэта мае сваю Пратэктарку, у адносінах да каторай кожная ўлада на зямлі значыць менш чым адна пылінка». А цяпер як Люрд, так і Фатіма слаўныя на цэлы сьвет.

*

І перад табою, дарагая мая Беларусь, адкрыюцца вялізныя магчымасьці, калі мы будзем гэтага дастойныя; калі будзем старацца жыць паводле Божае волі і гаварыць праўду, як тыя дзеці з Фатімы і Люрд, якія бачылі аблічча Нябеснае Ўладарыні, а Яна ёсьць і нашаю Пратэктаркай.

Калі-ж так, то хто падумаў-бы, чаму-ж уласна Беларусь так цяжка і доўга церпіць?

О, гэтае «чаму?» вырвалася з вуснаў нават Самога Хрыста ўкрыжаванага. Тут мы сутыкаемся з праблемаю вартасьці кожнага цярпеньня.

Відавочна аднак, што цярпеньні ў Божай эканоміі на штосьці патрэбныя, як неабходныя былі для справы Адкупленьня цярпеньні Збаўцы-Хрыста, таксама і цярпеньні Яго Прачыстай Маткі, нашай Уладарыні Марыі і цярпеньні мільёнаў сьвятых мучанікаў, а і ўсіх тых, якія мучацца і гінуць ад усякага тэрору і крыўды.

А калі добры і магутны Бог да гэтага дапушчае, дык відаць ёсьць тут нешта бязьмерна больш прыгожае, больш вартаснае ад найцяжэйшых нашых крыжоў дачасных, нават ад самага жыцьця чалавека. Дый кожная нявінная сьлязінка будзе ў найвышэйшай, адвечнай Справядлівасьці адпаведна ацэнена: кожнае тады-ж цярпеньне мае сваю высокую вартасьць і атрымае нагароду.

І хаця гісторыя чалавецтва, а ў тым ліку і гісторыя нашага народу — гэта ягоная крыжовая дарога, — але ў гэтай падарожы мы з свайго боку можам і павінны адны другім памагаць, як Сымон з Кірэнэі памагаў Хрысту ў Яго Крыжовай Дарозе. І трэба спачуваць другім, як тая Вароніка і другія жанчыны спачувалі Хрысту.

У гэтым усім вельмі шмат залежыць ад тых, што маюць уладу і якім ня трудна зрабіць дабро другому, хаця-бы з таею свабодаю рэлігіі.

*

Малемося да нашае добрае Маці Марыі, каб зьмягчыла сэрцы тых, якія маглі-б прычыніцца да лепшае долі нашага народу!

А нам самым трэба быць заўсёды паважнымі, справядлівымі і міласэрнымі. І як-жа нам належыць пільнавацца, каб дастойна й высока трымаць сьцяг нашае Ўладарыні Марыі, да каторай зьвяртаемся так у патрэбах нашых асабістых, як і ў цяжкой долі нашага краю і народу!

Дух чалавека ня мае ніякіх перашкодаў. Хоць чалавек быў-бы фізычна прыгнечаны, усё-ж дух ягоны можа свабодна лунаць па касьмічных прасторах. І чалавек вольны ці зьняволены можа ў кожнай хвілінцы шыбануць сваею думкаю да Маестату Ўсемагутнага Бога — памаліцца ў кожнай паважнай справе.А мы, беларусы, тым адважней можамо зьвяртацца да Дзевы Марыі, бо Яна ёсьць і нам такой самай Апякункай, як была сьвятой Бэрнадэце ў Люрд.

Пэўная справа, што ў жыцьці нашага народу Прачыстая Дзева Марыя можа вельмі-вельмі многа найлепшага зьдзеіць!

## З царкоўнага жыцця

АЛЬБАНІЯ. Тут гнёт атэізму даткнуў усе сьвятыні ўсіх культаў і Цэркваў: адну за другою зачынілі *ўсе сьвятыні* бяз вынятку — каталіцкія, праваслаўныя і магамэтанскія. Характэрна, што памагалі альбанскай паліцыі аддзелы кітайскай «чырвонай гвардыі». — Калі прыбыла ў Ватыкан альбанская група эмігрантаў, Папа высказаў перад імі свой глыбокі жаль з нагоды такога жорсткага прасьледу рэлігіі.

*

КУБА. Затое ў камуністычнай Кубе рэлігія карыстаецца поўнай свабодай: парахвіі працуюць нармальна, а нават лік вернікаў у касьцёлах прыбывае. Таму каталіцкія біскупы заклікаюць духавенства весьці дыялёг з кубанцамі-атэістамі.

*

ГАЛЯНДЫЯ. У дыэцэзіі Ротэрдам уведзены дэмакратычны строй у адказнасьці за Каталіцкую Царкзу: дасюль у кіравецтве і адказнасьці за парадак і за поступ духовы выступала само духавенства. На чале быў біскуп: ён даваў загады і яго слухалі дый спаўнялі. А цяпер усё духавенства і ўсе вернікі ёсьць дзейнымі асобамі ў Царкве і ўсе павінны несьці цяжар адказнасьці матар'яльнай і маральнай за поступ і ўпадак дысцыпліны ў дыэцэзіі: радавацца і смуціцца супольна, як жывыя асобы і грамады ў парахвіях, дэканатах і ў цэласьці дыэцэзіі.

*

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ: Штат Нью Ёрк, дыэцэзія Рочэстэр. Тутэйшы біскуп Фультон Шээн стараецца аблажыць сваіх вернікаў спэцыяльным падаткам — паводле магчымасьці іх даходаў — на патрэбы беднаты у іхняй дыэцэзіі і агульна на патрэбы беднаты сьвету. Працэнт разьмераецца ад 1,25% да 3% ад даходаў. Бо — кажа біскуп — ідзе справа галоўна аб тое, каб асьцерагацца выдаткаў лішніх, некарысных і раскошных, асабліва пры будове новых сьвятыняў, а нават школаў, аўтароў і кляштараў.

*

АНГЛІЯ. Кардынал Гінан зьвярнуўся да Царквы Мэтадыстаў, каб склікаць супольную Канфэрэнцыю з каталікамі ў сьнежні гэтага году. Зьезд мэтадыстаў згадзіўся з гэтаю прапановай. — Падобныя канфэрэнцыі з англіканамі ўжо адбываюцца ад пары да пары. І таксама супольныя дыялёгі з англіканамі, з мэтадыстамі і конгрэгацыяналістамі.

*

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ: Нацыянальная Канфэрэнцыя каталіцкіх біскупаў у Амэрыцы пастанавіла ўзяць удзел у сьвяткаваньні лютэранаў — іхняе гадавіны — 450 гадоў ад факту выступленьня Лютэра супраць Каталіцкае Царквы.

Тады былі прыбітыя Лютэрам на дзьвярах катэдры 95 тэзаў — пратэсту. Дык цяпер адбудуцца дыскусіі тэалёгаў каталіцкіх і лютэранскіх, як памятка тагачаснага гістарычнага здарэньня, якое выклікала тады шмат закалоту і войнаў. Затое цяпер дыялёг будзе адбывацца ў самым спакойным і братэрскім тоне, каб высьвятліць істоту праўды і недаразуменьняў.

*

ФРАНЦЫЯ: Вялікую страту панесла каталіцкая Францыя з нагоды сьмерці слаўнага дзеяча ў радыё і тэлевізіі Яна-Гюі Моро, які першы зразумеў значэньне для Царквы радыё і асабліва тэлевізіі. Ён стаў паважным спэцыялістым у гэтай галіне веды, тэхнікі і практыкі дый сам вельмі часта выступаў з лекцыямі, прытым быў дзейным і практыкуючым каталіком. На вялікі жаль, меў слабае здароўе і ягоная сьмерць надыходзіла павольна, але няспынна: памёр маючы 42 гады, пакінуўшы ў жалобе жонку і трое дзяцей і ў жальбе каталікоў Францыі і сьвету.

## З беларускае прэсы

БЕЛАРУС: № 123—124, Ліпень—Жнівень, 1967. Нью Ёрк і ВЕСТКІ КАНАДЫ. Торонто. — Купала і Сучаснасьць. Экспо — 67 і Беларусь. У Вестках Канады — Літаратурны Дадатак № 1 — «Далягляды».

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 13 (84), 15 ліпеня. № 14 (85), 31 ліпеня, 1967. № 15 (86), 15 жнівеня. — Каляндар будзе (перакідны) — нарэшце!

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 151, Ліпень, 1967. Торонто. — 100 гадоў Канады і ЭХРО — 67.

## *З лістоў у рэдакцыю*

### З КРАІНЫ ЭМІГРАНТАЎ

НЬЮ ЁРК. Горад сапраўды міжнародны: людзей можна спаткаць з усяго сьвету — рознага колеру і нацыянальнасьці, дык таму жыць у ім трэба ўмець... Яно, як кажуць, «і сьмешна і вясёла!», бо лёгка паддацца ўсялякім уплывам і парадкам; аднак мусіш быць сам асьцярожным і кемлівым, бо ніколі няведама, якой думкі спатканы джэнтэльмэн.

Па II-ой вайне шмат эўрапэйцаў апынулася ў Амэрыцы: адны як палітычныя, а іншыя проста па шчасьце. Вось-жа і адна і другая група эмігрантаў — вельмі здаволены. Амэрыка — краіна поўнае свабоды і багацьця: прыймае ўсіх з усьмешкай і з усёй прыхільнасьцяй.

У гадах 1950-60 новая эміграцыя ўжо ўпусьціла глыбокія карэньні, бо гэта былі людзі пераважна маладыя і здатныя да ўсялякае працы. Калі-ж убачылі плён сваей працы, то тымбольш да яе браліся, чым больш зараблялі.

І мне таксама надарылася аказія пашукаць такога «шчасьця» ў Амэрыцы, аднак значна пазьней пасьля вайны. І вось, калі я спаткаўся з былымі сябрамі — ці з лягераў, ці з ваякамі, — з тымі з пяцігадовай нашай паняверкі, — дык проста не магу апісаць іхніх паводзінаў! На бацькаўшчыне аб такім жыцьці магчыма было толькі пачуць у казках: уласныя дамы, — не хаты, але павільёны з гародчыкамі на прадмесьцях гораду; кватэры шмат-пакаёвыя, мэбля самай новай моды, пасьцелі з пазалочанымі пакрываламі і з цудоўнымі дыванамі, мягкія падлогі, радыё й тэлебачаньне; а ўжо-ж аўтамашына не належыць да люксусу, але як нармальная патрэба даежджаць на працу... І прытым розныя забясьпячэньні (іншурансы) на час хваробы і на іншыя непрадбачаныя здарэньні (толькі-ж ня дай, Божа, карыстаць з тых іншурансаў!)...

У Нью Ёрку, як я казаў, шмат розных нацыяў і большыя зь іх раз у годзе адзначаюць свае нацыянальныя сьвяты парадамі, машыруючы вуліцамі гораду. Праходзяць калёны ў нацыянальнай вопратцы, з музыкай і сьпевамі і праяжджаюць удэкараваныя вазы. А канчаюць сьвята рознымі забавамі, канцэртамі, мітынгамі.

Таксама завёўся вельмі прыгожы звычай ладзіць парад «Ляяльнасьці» на 5-ай Авэню Нью Ёрку. На гэты парад зьяжджаюцца ўсе нацыянальнасьці разам, на знак салідарнасьці. Толькі жыды не бяруць удзелу ў гэтым сьвяце, а дзіўна, бо якраз ім найлепш у Амэрыцы паводзіцца!

Першыя гады адбываўся парад вельмі прыгожа і шумна: калёны машыравалі ад абеду да вечара, а глядачоў соткі тысяч — на тратуарах. Хто хацеў добра бачыць, стараўся заранья заняць адпаведнае месца. — Праўда, ўжо ў гэтым годзе і ходзячых і гледачоў было ня вельмі многа. А чаму так? — мусіць прывыклі да Амэрыкі, ці можа лішне разбагацелі?..

Таксама прыгожа ладзіцца Тыдзень Паняволеных Народаў. Усе гэтыя краіны прысылаюць у Нью Ёрк дэлегацыі і ў тым ліку беларусы. Найперш усе ідуць у касьцёл: супольна дзякуюць Богу за вольнасьць. Пасьля едуць да губэрнатара гораду і зара да статуі Вольнасьці Амэрыкі, дзе адбываюцца мітынгі з прамовамі прадстаўнікоў гэтых-жа паняволеных народаў.

Вось што мне ўздумалася напісаць аб Амэрыцы. У нас вельмі благое лета, але часам ўсё-ж выходжу на вуліцу і неяк яшчэ жыву.

*Боніфацы Прытыцкі*

*

### АМЭРЫКА — CLEVELAND
### СЛАЎНАЕ ЗАКАНЧЭНЬНЕ ШКОЛЫ

Андрэй Гасьцеяў, сын Юрага і Стэфаніі, яшчэ ў элемантарнай школе імяні сьв. Баніфаца, выказаў высокія здольнасьці ў навуцы, канчаючы 7 і 8-ую клясы першым.

Як нагароду за пільную працу атрымаў ад арганізацыі сьв. Вінцэнта поўную стыпэндыю ў сярэднюю школу (High School).

На працягу 4-х гадоў сярэдняе школы ім. сьв. Эдварда канчаў першым, за што атрымліваў шматлікія нагароды.

З канцом гэтага году-школьнага 31 (V) 1967 — яго 7 разоў выклікалі на сцэну, а саля гучэла воплескамі. А дырэктар заявіў, што Андрэй атрымаў тры стыпэндыі на ўнівэрсытэты і выбраў сабе Univ. of Notre Dame, Ind.

Рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае нашаму маладому суродзічу здаўроўя і памыснасьці ў далейшай навуковай працы!

*A. V.*

# З беларускага жыцьця

## КАЛЁНІЯ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ

У часе ад 29-га ліпеня да 6-га жніўня г. г. адбылася ў памешканьні Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане летняя калёнія для беларускіх дзяцей. Удзельнікі, у большасьці дзяўчаты, правялі весела і прыемна адзін тыдзень у беларускай атмасфэры. Зьведвалі Лёндан, рабілі далейшыя экскурсіі, ладзілі вогнішча, гулялі ў валейбол, крокет і бадмінтон. Мелі таксама нагоду пазнаёміцца з працай Школы сьв. Кірыла, пабачылі царкву сьв. Пятра і Паўла, беларускую бібліятэку і невялікі, хоць даволі багаты беларускі музэй.



*Група ўдзельнікаў калёніі з сваім прыяцелям*

Не абыйшлося і без плачу перад ад'ездам: большасьць удзельнікаў жадала аставацца ў Школе сьв. Кірыла надалей.

Вялікая заслуга ў удачы належыцца гаспадыні Школы сьв. Кірыла, сп.-ні Алене Міхалюк, якая была кіраўнічкай калёніі.



## ПОСЬПЕХІ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛА

У чэрвені г. г. вучань Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане, Фрыдгальм Сенькоўскі здаў на Лёнданскім Унівэрсытэце матуру з беларускай мовы. Гэта ўжо другі вучань, які можа пахваліцца гэтым прыгожым дасягненьнем: у мінулым годзе здаў матуру з беларускай мовы Алесь Лошка.

Абодва хлопцы зьяўляюцца найстарэйшымі вучнямі школы сьв. Кірыла і першымі яе матуральнымі кандыдатамі. Іхныя посьпехі, будучы першымі канкрэтнымі вынікамі шасьцігадовай працы школы, зьяўляюцца асабліва радаснымі як для іх саміх так і для кіраўніцтва школы.



*Вясёлы час*

*Група вучняў Школы Сьв. Кірыла на канікулах у Сомэрсэт*

Сенькоўскі пачынае цяпер апошні год сярэдняй школы і пасьля думае ісьці на унівэрсытэт вывучаць матэматыку і фізыку. Лошка жадае стаць бібліятэкарам. Трэба пажадаць ім абодвым як найлепшых посьпехаў.

---

*Адгадкі з № 4 (103) 1967:*

1) *Папяроса.* 2) *Лодка* на возеры, ці на рэчцы. 3) *Званы.* 4) *Самалёт.* 5) *Самаход.* 6) *Паравоз.* 7) Касьцельныя *арганы.* 8) *Лодка* на рэчцы. 9) *Радыё.*

## З САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Артур Вольскі

### *МНЕ БЛАКІТНАЮ ЗДАСЦА ЗЯМЛЯ*

*Можа, мне давядзецца*
*на Марс паляцець.*
*Не пярэчу.*
*З адной толькі ўмовай:*
*каб назад на Зямлю*
*не спазніцца,*
*паспець*
*нам вярнуцца на мёд чабаровы.*

*Пэўна, я засумую сярод марсіян*
*на чужой і халоднай планеце*
*без духмянага водару нашых палян,*
*што ўбіраюцца ў сінюю квецень.*
*Без густых чабароў,*
*без лясоў і бароў,*
*што ў спякоту даюць прахалоду,*
*супыняюць вятры ў непагоду,*
*а найбольш —*
*без зямных незаменных сяброў,*
*з кім і радасць дзяліў і нягоду.*

*Пэўна, буду я часта дзівіцца здаля*
*на Зямлю —*
*без спачынку і стомы.*
*Мне блакітнаю здасца*
*з нябёсаў Зямля,*
*як гавораць сябры-астраномы.*
*Я ім веру, бо знаю:*
*штогод у бары*
*Каля Мінска і Брэста*
*цвітуць чабары.*

### *ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ-КУРЦОЎ*

*Ах, Курцы, такая справа,*
*Што скажу Вам? — вось цікава!*
*Каб я жыў, з Вас не сьмяюся*
*І дражніцца не бяруся. —*

*Людзі Вы — ў паважным веку,*
*Як патрэба чалавеку:*
*Жыцьцё вашае — не «цацы», —*
*Аж пот льецца ў цяжкой працы! —*

*Ды і праца больш чужая,*
*Так як «паншчына» старая,*
*Што дамоў прыходзіш ў госьці —*
*Аж трашчаць і ныюць косьці!*

*Не хачу я анічуць*
*Вас ад дыму адцягнуць:*
*Курыць можна, як хто хоча,*
*Круглы дзень і серад ночы.*

*І дзяўчына і жанчына,*
*(Вы скажыце, дзе прычына?),*
*Ці па-праўдзе, ці-то дурацъ?*
*Глянуць брыдка — сядзяць-кураць ...*

*Хай-жа гэта безгалоўе*
*Вам паслужыць на здароўе! —*
*Хай пацерпяць жонка-дзеці —*
*Трэба-ж грошы дзесь падзеці!*

*А Рэдактар «Божым Шляхам»*
*Хай ідзе сабе «к'манахам»:*
*Хай галоўку патурбуе —*
*Аб падпіску сам бядуе!*

*Няхай ходзіць голы-босы —*
*Шлём яму, што спадзе з носу:*
*Мы, хоць розум свой прыдурым,*
*Смагла вып'ем і закурым!*

*Лепш гарэлка, мёд і віскі,*
*Як даць грошы на падпіскі:*
*Лепш праз дым не бачыць сьвету,*
*Як чытаць «Шлях» ці газэту!*

*Дактары штосьць выдумляюць, —*
*«Рак-табак?» — там нешта баюць:*
*Галаву нам толькі дурацъ,*
*А тымчасам самі кураць ...*

*Ах, ты гора, наша гора,*
*Безбярэжна, горка мора, —*
*Тэлевізія — ты наша,*
*«Зарубежная» — ты наша ! ..*

Рэдактар Я. Г.

### НОВЫЯ ЗАГАДКІ

*(Для дзяцей)*

1) Мае круглую лямпу, а сьвеціць кусочкамі.
2) Без начыня ваду носіць:
Разьлівае, колькі досыць.
3) Што год памірае,
Дый усё жывая!
4) Ён сам ходзіць,
А яго людзі носяць.
5) Што найшыбчэй на сьвеце кружыць
І прытым круціцца?

## У НАШЫМ ВЫДАВЕЦТВЕ МОЖНА КУПІЦЬ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:



## ЗЬМЕСТ:




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.